*Віктар Гардзей*

# ЗАСЕВАК РАДЗІМЫ

*вершы*



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1983

* * *

І ўсё ж я знайду свае лепшыя словы
Табе, каласісты і ягадны год,
Табе, спорны лівень,
Табе, зруб сасновы,
Табе, мой гасцінны і мужны народ.

Скажу іх жанчыне — салдатцы, матулі,
Табе, наша праца,
Табе, мілы край.
Скажу іх, каб людзі праз далеч пачулі,
Каб рэхам працяжным адгукваўся гай.

Скажу свае словы і зорам, і нівам,
Табе, горды бусел,
Табе, сенажаць.
На сцежках Айчыны я тым і шчаслівы,
Што ёсць мне каму свае словы сказаць.

* * *

Спакой пералётнаю птушкай
З'явіўся, мільгнуўся і знік.
Ну, досыць жа, ветрык, не гушкай
Хмурынку, дзе спаў маладзік.

Праз лес, праз зялёнае жыта
Няспынным патокам цячэ
І тое, што ў бурах пражыта,
І тое, што будзе яшчэ.

Намеціцца ў часе праменным
Змяшчэнне задум і трывог,
Але застанецца нязменным
І поле, і выган, і лог.

На новай — узвышанай — хвалі
Напоўняцца веліччу спраў
Той хлеб, што па крошцы збіралі,
Той лёс, што нам век даравалі.

У працы, у бурах, у громе
Відна і бліжэй і ясней
Жыццёвая праўда на зломе
Былых і наступных падзей.

* * *

Дарогі, гасцінцы, сцяжыны
На захад бягуць і на ўсход.
І ўсюды прасторы Айчыны,
І ўсюды жыве мой народ.

Іду я, і блізка дзесь, блізка
Заплакала каня ў трысці:
Ля сціплых ісці абеліскаў,
Ля брацкіх магілаў ісці.

Па кладках. Паўз вечныя сосны.
Ля верб, што ў слязах адцвілі.
Праз боль свой, праз боль невыносны
Іду я, іду па зямлі.

* * *

У жыццё прыйшлі мы ў мірны час,
Ды няма ад горычы збавення.
Мо таму, што свет прывеціў нас
Чорнымі асмалкамі бярвення.

З попелу выглядвала вайна
То цвіком іржавым, то вядзерцам.
І здаецца, што ў грудзях здаўна
Не маё —
баліць чужое сэрца.

Над вуголлем спаленых дамоў
Ластаўка здзічэлая крычала.
Не хапала ў вёсцы дактароў,
Часам нават хлеба не хапала.

Колюць памяць болю асцюкі,
Бо і сёння — з далечы абжытай —
Бачу я:
бягуць, бягуць жанкі
Жаць яшчэ не выспелае жыта.

І калі з іх нехта спыніць крок,
Пахіснуўшыся сярод іржышча,
Знаю:
гэта паланіла зрок
Чарната тых блізкіх папялішчаў.

* * *

На палатне рукой умелай
Мастак акрэсліў рэчку,
гаць.
Усё, аб чым душа балела,
Мастак хацеў намаляваць.

Ляглі штрыхі далёкай вёскі.
Над рэчкай сцелецца туман.
Чаму ж тры выбеглі бярозкі
Паўз луг і гаць на першы план?

Яны над стрэшкай лесічоўкі
Шумяць маркотна,
а між іх
Няма чацвёртае сяброўкі,
Што з каранёў расла адных.

О Беларусь! Каб вобраз поўны,
Каб твой партрэт дамаляваць,
Бярозкі той,
святой і кроўнай,
Нам будзе вечна не хапаць.

## НА ПЕРШАЙ ВЯРСЦЕ

На першай вярсце ад граніцы
Наш мірны характар відзён:
Пад неба растуць камяніцы
З блакітным прасторам акон.

Крывёю напоены травы
За першую гэту вярсту.
Салдацкай адвагі заставы
Тут пільна стаяць на пасту.

Адны толькі птушкі фарсіста
Сюды залятаюць без віз.
Адсюль пачынаюць турысты
Па рускіх раўнінах круіз.

Сябрам, што прыходзяць з даверам,
Гасцінна, мой Брэст, адчыні
Радзімы парадныя дзверы
На першай вярсце цішыні.

Тут гояцца даўнія раны
І светла чаромха цвіце
Над славай салдат,
пахаваных
На першай айчыннай вярсце.

## ПАМЯЦІ СУСЕДА

Зорку ён запаліў
Над апошняй магілаю брацкай.
І хадзіў сярод ніў
З гартаванай душою салдацкай.

Трыццаць шэсць мірных зім
На лугах, у лясах, на дарогах
Пралягло паміж ім
І вялікай яго Перамогай.

Землякі не прыйшлі —
Іх і рэкі і пожні гукалі.
Трыццаць шэсць год былі
Яго сэрцам аплаканы далі.

Паміж ім і вайной
Трыццаць шэсць мірных вёсен.
Ды чаму ж раніцой
Сёння бровы нахмураны ў сосен?

Трыццаць шэсць мірных год
Пралягло на зямлі светлакрылай
Між магілай яго
І апошняю брацкай магілай.

## 22 ЧЭРВЕНЯ

На лічбу 22 світанне
Перагарнула каляндар,—
Дзень летняга сонцастаяння,
Дзень цішыні і светлых мар.

Дзень васількоў, травы мурожнай
І спелай чырвані суніц.
Дзень нашай памяці трывожнай
З далёкім водбліскам зарніц.

Дзень памяці і ўшанавання.
Дзень, поўны ласкі і цяпла.
Дзень вечнага супроцьстаяння
Сіл справядлівасці і зла.

## «ЗАПАРОЖАЦ»

Ніхто не выйдзе за парожак
У гэты лівень праліўны.
З крылом пагнутым «Запарожац»
Стаіць гаротна ля сцяны.

Быў гаспадар суровы, строгі.
Маўчаў. І думаў. І курыў.
Яго пратэз, яго дарогі
Ён, «Запарожац», не забыў.

Каля агню пад плёскат хвалі
Не раз дзялілі боль і сум.
Зары палоску прарывалі,
Як франтавую паласу.

Шумяць маркотныя бярозы.
Не выйдзе з дому гаспадар.
І ў «Запарожца», быццам слёзы,
Бягуць, сцякаюць кроплі з фар.

## ПАСЛЯВАЕННЫЯ САДЫ

Калючым дротам дзед калісьці
Абгарадзіў свой сад наўкруг.
З жальбою мне шаптала лісце:
«Здымі нявольніцкі ланцуг».

У садзе кожную хвіліну
Сябе я вязнем адчуваў:
Іржавы дрот то мне штаніну,
То вэлюм вішанькам ірваў.

Пялёсткі яблынь! Цвет вішнёвы!
Май навальніцамі прапах.
Даўно штакет ля хаты новы,
А час той сніцца па начах.

Стаяць у памяці балюча
Пасляваенныя сады —
Журлівы шэпат, дрот калючы
І гаркаватыя плады.

* * *

Чаго хачу? Чаго яшчэ жадаю?
Блішчаць, блішчаць слязінкі на траве.
Пасвеціць сонца возеру і гаю,
А змрок міне, а змрок за гай сплыве.

Чаго хацець? Ёсць неба і аблокі.
Чаго жадаць? Ёсць хлеб і песня ёсць.
Не мне, не мне прысніўся стогн
далёкі,—
Бінтоў мая не знала маладосць!

Туману нікнуць белыя палотны.
Сплывае ноч за луг, за сіні гай.
З віроў яе жахліва і смяротна
Не выплывай, бяда, не выплывай.

Кашу мурог! Паклон зялёным хатам!
Вітанне вам, суседзі і радня!
З жаданнем жыць, быць сейбітам,
аратым
Стаю на вахце сонечнай штодня.

* * *

«Любі зямлю —
хай людзі пазайздросцяць»—
Прыйшло пісьмо мне з даўніны сівой
На скручанай у трубачку бяросце,
Напісанае прашчура рукой.

Жыцця аздобай, светлаю акрасай
У край,
не раз апалены агнём,
Прабілася яно праз нетры часу —
Бярозкай зашумела пад акном.

## ДУБ

Абстраляны стрэламі маланак
З лука векавечных навальніц,
Дуб стаіць у водблісках заранак,
На вятрах, над чырванню суніц.

З жалудоў, што ў верас заляцелі,
Пасярод шырокае грады
Вырас ён, і птушкамі паселі
На плячах пражытыя гады.

З кожным крыл натомленых узмахам
Ноч гусцее ў прысмерку лясным.
У зялёнай кроне сняцца птахам
То грымоты, то пажараў дым.

Дуб жыццём нястоўжаным
узрушан —
Паспрабуй іх толкам палічы:
На адным плячы — вясёлых птушак,
Сумных птушак — на другім плячы.

* * *

На прасеках вогнішчы датлелі,
І паспела сэрца адбалець.
З цвету яблынь ночы пасвятлелі.
Будуць і яшчэ яны святлець.

Выйшла з саду, ціха выйшла з гаю
Свята стройных яблынь і бяроз.
Дзякуй сонцу цёпламу і маю!
Будзе і яшчэ такі прагноз.

Ветрык смутку сціх у сіняй далі.
Зіхаціць у промнях сенажаць.
Салаўі пад раніцу свісталі.
Будуць і яшчэ яны свістаць.

Свет заслонен яблыняю белай.
Прыйдзе жнівень — яблыку даспець!
Сэрца так балела, так балела.
Будзе і яшчэ яно балець.

* * *

Сын дрывасека і ратая,
Свайго народа кроў і плоць,
Хачу цябе, зямля святая,
Ад пустазелля прапалоць.

Пазнаўся вельмі рана з потам
І дужым вырас без хвалеб.
Работа, мілая работа,
Мне без цябе гарчэе хлеб.

* * *

Зары пульсуе залацень —
І мне, і ясеням, і вербам
Святлісты, шчодры ззяе дзень.

Жыты і лён звіняць расой —
Перад сваім дзяржаўным гербам
Стаю са шчыраю душой.

Туман, як дым, плыве з кустоў —
І аж не верыцца, што ўсім нам
Баліць пралітая тут кроў.

Жаўрук заліўся з сінявы —
Перад сваім дзяржаўным гімнам
Стаю — народа радавы.

Прамень на коласе зайграў —
Услаўлен род людскі працягам
І светлых мар, і добрых спраў.

Зарою чырваніцца луг —
Перад сваім дзяржаўным сцягам
Не меч мне бачыцца, а плуг.

## ГРАНІТ ПАЛЕССЯ

Знайшлі паклады выкапняў карысных,
Гадоў мо сто шукалі і — знайшлі.
Стаяць палескай славе непахісна:
І нафта ёсць, і соль ёсць у зямлі.

Там, дзе глушцы жылі на кожным дрэве,
Дзе не было ні сцежак, ні дарог,
У нетрах каля самых Мікашэвіч
Граніт суцэльнай глыбаю залёг.

Будоўляў хлеб—зярністы камень шэры —
На шчэбень крышыць сёння дынаміт.
Ідуць БелАЗы, як зубры, з кар'ераў.
Ідзе граніт!
Палескі наш граніт!

Тут, у лясах, быў вораг часта біты,
І не было людзей за нас цвярдзей.
Цяпер жартуюць:
«Гэта ж ад граніту
Такая моц і мужнасць у людзей!»

Знайшлі паклады выкапняў карысных:
Руда, і соль, і цвердзь падземных скал.
Стаяць майму Палессю непахісна,
Калі такі трывалы п'едэстал.

## МОТАЛЬСКІЯ КАЖУХІ

Свеціцца на сонцы што́ там —
Новы клуб ці я́сель дах?
Вывесіў праветрыць Моталь
Кажухі над Ясельдай.

Кожны дом іх шые спраўна
Пад старымі клёнамі.
Кажухамі Моталь слаўны —
Белымі, дублёнымі!

На Палессі сёння моды
Не бядой прыжытыя:
Адрадзілася з выгоды
Рамяство забытае.

Ну і што ж! Насі, дзяўчына,
Кажушок свой з Моталя.
Бачыш: хмары, як аўчыны,
І сняжынкі лёталі.

І — вятры! Вятры падзьмулі
На лясы з'інелыя,—
Зноў бярэзнік апранулі
У дублёнкі белыя.

Зранку Ясельда надзела
Кажушок падбелісты.
Рамяство памаладзела
У руках умелістых!

І каму ж не панараўна
Футра мець з фальбонамі?
Кажухамі Моталь слаўны —
Белымі, дублёнымі!

## БЕЛАРУСКІ ЛЁН

Між айсбергаў белых і крыгаў
Адважныя людзі плылі,
А ветразі шхун іх і брыгаў
З ільноў беларускіх былі.

Жартуюць, і многія верацЬ,
Што слала сабе ў даўніну
Багіня кахання — Венера —
Пасцель з беларускага льну.

Кармілі славяне дзяржаву,
І гул не сціхаў верацён.
Праз беднасць Радзімы і славу
Прайшоў беларускі наш лён.

Крывёй і слязамі расілі
Нядолі сваёй валакно.
Не раз бінтавала Расію
З прынёманскіх сёл палатно.

Хлеб-соль на кужэльным абрусе
Гасцям мы падносім здавён.
Па праву і ў герб Беларусі
Між злакаў уплецены лён.

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Зноў усход палымнее над нівою:
Зорны час, звонкі дзень, светлы міг.
Дабратой і пяшчотай зычліваю
Б'е крыніца паэтавых кніг.

Ялта веку суровага рысамі
Адлюструецца ў чыстай вадзе,
А сцяжынка паміж кіпарысамі
Да блакітнай магілкі вядзе.

Халадком ці журбою павеяла?
Васількі? Божа мой, васількі!
Тут іх Лось Еўдакія пасеяла —
І любві, і радзімы цвяткі.

Жыў адзін — сэрца з болю сціскалася.
Сам сабе — брат, і друг, і радня.
Знай, Паэт, Беларусь дачакалася
Залацістага, яснага дня!

Зноў усход баравы разгараецца,
І пад шэлест паэтавых кніг
Аб чым марыў ён, тое збываецца:
Зорны час! Звонкі дзень! Светлы міг!

## ГРАДАБОЙ

Быў градабой.
Мне горка стала.
Расаду ўсю, пялёсткаў бель,
Храсткі гуркоў з пяском змяшала
Ільдзінак буйная шрапнель.

Але меў град ачаг лакальны,
За вёскай граду не было —
Там зелянела рунь світальна,
Усё цвіло, усё гуло.

Там страх сышоў з душы раптоўны,
Бо мне здалося:
над усёй
Маёй рэспублікай чароўнай
Быў гэты жорсткі градабой.

## ВАЛУН

Ляжыць ён стагоддзяў нямала
Якраз на развілцы дарог.
Каго тут сялянка чакала?
Хто слёзы стрымаць тут не змог?

Маўклівы і чорны ад сажы,
Валун паміж вёсен і зім
Ніколі, відаць, і не скажа,
Чый боль пахаваны пад ім.

* * *

Прадбачыў ты,
Мой чалавечны продак,
І светлы час,
І дружную сяўбу.
Аб нас заўжды
Ты думаў у паходах
І на Нямізе
Ладзіў малацьбу.

Араў і сеяў,
І зямлю скародзіў.
Карміцельку,
Яе не даў на глум.
Які ўжо век
Пасля цябе ўзыходзіць
Дух дабрыні
З зярнятаў тваіх дум!

* * *

Адборным засеем насеннем
Адведзены лёсам засевак,
Дык будзе і ўвосень вясеннім
Жыцця радаслоўнае дрэва.

Не счэзне яно, не завяне,
Напоенае каранямі.
Пустой і пажоўклай не стане
Зялёная крона вякамі.

Пад небам нам сёння прасторна,
Удзячны за гэта мы продкам.
Іх вопыт, як сок жыватворны,
Цячэ цераз нас асяродкам.

Цвіце радаслоўнае дрэва,
Бо шчодра яго напаілі
Легенды,
Паданні,
Напевы,
Народныя казкі і былі.

Мы гэтым багаццем шчаслівы,
Высокае сонца над намі.
Пайшлі нашы продкі ад нівы
І сталі жыцця каранямі.

## КУРГАНЫ

На выдмах пясчаных, на стромах,
Між рэк і зялёных дуброў
Стаяць курганы, як шаломы
Былінных асілкаў, дзядоў.

Жылі абаронцы Айчыны
З касой і сярпом у руках.
Сівыя — ад часу — ляшчыны
Растуць на крутых курганах.

Ішлі каля іх партызаны
Праз боль свой,
Праз гнеў,
Праз туман.
Ля Мінска, штыкамі ўвянчаны,
Стаіць нашай Славы Курган.

Ён горда стаіць у маўчанні,
І лепей з яго нам відны
Эпохі,
Паходы, змаганні
І сведкі тых дзён — курганы.

* * *

Мая душа ад подыху цяпла
Набракла, быццам яравое поле:
Рунь дабраты ў ёй спорна прарасла
І цягнецца да сонейка ўсё болей.

Вяснее рунь — намёк на шчодры хлеб,
На хлеб душы і хлеб калгаснай нівы.
Няма яшчэ кутка такога ж, дзе б
Я быў, як тут, вясёлы і шчаслівы.

Чужой хлусні і чэрствасці табун
Рунь дабраты не вытапча знячэўку.
Гарчак пакут, бяды трава-плакун
На веснавым не прымуцца засеўку.

Пільную рунь ад ліха і згрызот
Перад зарой світальнай і вячэрняй,
Каб выдаўся багаты намалот
І дабраты людской, і проста — зерня.

* * *

О вясна!
Зялёнае шаленства
Жураўлёў хістае на ляту.
І пароўну дзеліць раўнадзенства
Паміж намі сонца дабрату.

Зорны час адкрыццяў у здзіўленні.
Новы дом будуюць мурашы.
Светлы час надзей у прасвятленні
І зямлі,
            і неба,
                        і душы.

* * *

Зорка яркая ў Сусвеце?
Ці касмічны карабель?
Вёска спіць, і вёсцы свеціць,
Цёпла свеціць яблынь бель.

Сніцца поле з жытнім гулам...
Сніцца светлы край лясны...
Вёска спала і не чула,
Хто яе падсвечваў сны.

## ПТУШЫНЫЯ ПІСЬМЫ

Трывожацца гнёзды старыя —
Пад звон ручаінак апошніх
Птушыныя пісьмы жывыя
Прынесла вясновая пошта.

Бусліныя — шле на бусліны,
Качыныя — шле ў вербалозы,
Гусіныя — на азярыны,
А пісьмы гракоў — на бярозы.

Ды часам звіняць ручаінкі
Без радасці ў лесе кашлатым:
Ёсць гнёзды пустыя, як скрынкі,—
Лісты не дайшлі адрасатам.

Птушыную пошту чытаюць,
Сартуюць гаі і дубровы.
І горкія думкі знікаюць,
І ў свеце святлее вясновым.

## ЧАРОМХА

Ад чаромхі пах чароўны
Паплыве за небакрай.
Зацвіла яна раптоўна —
Белы ўзлесак, белы гай.

І балота і лаза ўся
Прасвятлелі цёплым днём,
Гай нібы падперазаўся
Беласнежным фартушком.

## КУРАСЛЕП

Цвіў кураслеп, і я здзівіўся
Яго курынай слепаце:
Чаму ў балоце пасяліўся?
Чаму на галах не расце?

І шпак яшчэ спявае хрыпла,
І лес яшчэ сыры, як склеп,
Але даўно жаўцее сціпла
Каля імшарын кураслеп.

Мінае сонечныя ўзлескі
Мясцін балоцістых жыхар,
Каб на святле цвілі пралескі —
Вясны яшчэ шчадрэйшы дар.

* * *

Вясёлы гай і луг вясёлы:
Вясна зялёная прыйшла.
І ладзяць гнёзды навасёлы,
І разыходзіцца імгла.

Буслоў натомленыя крылы
Прашалясцяць над галавой.
Ці ж хоць, зямля, ты не забыла
Пякучы боль і смутак свой?

Садам квітнець у Беларусі.
Пчале ляцець на першацвет.
З вясны зялёнай азірнуся,
Далей пайду ў трывожны свет.

Мой край у працы харашэе.
Сінеюць плёсы і брады.
А там, дзе зеўралі траншэі,
Шуміць бярэзнік малады.

Вясна паклікала на ўлонне,
Вядзе сцяжынка за сяло.
І што пякло — пячэ і сёння,
І што балела — не прайшло.

## ПРЫЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

Над палямі,
Над лясамі
Пратрубілі жураўлі.
Іх з'яўленне,
Траў цвіценне
Чуюць пчолы і чмялі.

Хто прачнецца,
Хто ўсміхнецца,
Хто з пралескай прыбяжыць.
Маладое
І старое
Апантана хоча жыць.

Першы лісцік
Вечных ісцін,
Першы гром і першы тлум.
Так спрадвеку:
Чалавеку
Жураўлі прыбавяць дум.

Калі сёння
Цвет на ўлоннях
Не астудзяць халады,
Будзе ў вёдрах
Ягад шчодра,
Будуць плоднымі сады.

Чуюць долы,
Чуюць сёлы
Жураўлінную трубу.
Знаюць людзі:
Цёпла будзе —
Трэба думаць пра сяўбу.

* * *

Святлом бяроз, святлом усмешкі шчырай,
Святлом вачэй напоўніцца б зямлі!
Плыве,
Плыве над белым полем вырай.
Падснежнікі на ўзлесках зацвілі.

Святло бяроз дуброву не пакіне.
Святло вачэй пральецца ў сіні змрок.
Шуміць,
Шуміць ручай у лугавіне,
І кліч сустрэчы рвецца з-пад аблок.

І так бы жыць, не знацца б нам з трывогай!
Не плакаць бы жанчыне ля акна.
Звініць,
Звініць струна жыцця чужога,
Звініць мая напятая струна.

Каму пайсці і не вярнуцца болей?
Каму кахаць, любіць шумлівы сад?
Маўчыць,
Маўчыць разбуджанае поле.
Падснежнікамі пахне далягляд.

Святло вачэй...
Святло усмешкі шчырай...
І вечны боль ля стылага акна...
Але ляціць,
Ляціць вясёлы вырай.
Шуміць наўсцяж зялёная вясна.

* * *

Падняўся палын прыдарожны.
Гарэняць гарчак і быльнёг.
Нам свет — і сягоння трывожны —
Бацькоў і братоў не збярог.

Тым смуткам, які не забыты,
І болем, які не сціхаў,
Хвалюецца новае жыта,
Маркоцяцца россыпы траў.

Не дымам, а водарам хвойным
Прапахне падсочаны бор.
Хай будзе на сэрцах спакойна
У нашых матуль і сясцёр.

Вышэйшаю радасцю поля
Барозны праз пожню ляглі.
І чуецца ясная доля
На гэтай збалелай зямлі.

## СЛЁЗКІ ЛУГАВЫЯ

Ці не ты, вясна, гукала
На аселіцу кабет?
Першым шчаўем частавала —
Слёзы капалі на цвет.

Асаку касіў над рэчкай
Франтавік з адной нагой.
Удава ішла з вуздэчкай:
— Дзе ж ты, косю, бедны мой?

І з тых дзён цвітуць ля вёскі,
Ад сяўбы і да жніва,
Лугавыя слёзкі, слёзкі
Ды гусцей — плакун-трава.

## УТАЙМАВАННЕ ПЧОЛ

Рой пакінуў вулей неўспадзеў:
Уцякаюць маладыя пчолы.
Міг раення дзядзька праглядзеў
І стаіць ля весніц невясёлы.

Пчолы цёмнай хмаркаю лятуць,
Уцякуць, відаць, у лес вясновы!
Але хлопцы ўжо з двароў бягуць
І крычаць на выгане вясковым:

— Не ўцякайце, пчолы, ад людзей!
— Звіся, рой!
— На дзічку сядзь у полі!

І вось цуд:
ніжэй,
яшчэ ніжэй,
І на дзічцы звіўся рой паволі.

З дымаром, з кашом
пчаляр бяжыць.
І — з вядром.
Каб падступіцца к рою,
Пчол спачатку трэба абкурыць,
А пасля і пакрапіць вадою.

Венік ёсць.
І спрытна ж ім пчаляр
Абмятае ў кошык пчол сярдзітых.
Раз, другі...
Не трэба ўжо дымар.
Кош гудзе, сурвэткаю накрыты.

Вось і ўсё.
Аматары прыгод,
Хлопцы здзіўлены такім здарэннем:
Пакрычалі ж толькі,
а на мёд
Атрымаў з іх кожны запрашэнне.

* * *

Адзваніў,
адспяваў,
дзень вясковы
Паміж ніў,
сярод траў,
ля дубровы.

І прыйшла
да людзей
без грымоты
Ноч цяпла,
і — надзей,
і — пяшчоты.

На адзін
паварот
часу кола,
І глядзі:
ля варот
грукнуў золак.
Зноў між ніў,
сярод траў,
ля дубровы
Зазваніў,
заспяваў
дзень вясковы.

## ЧМЕЛЬ
## У ШАСЦІ СКЛОНАХ

Вабіць яблынь бель.
Першацветы клічуць.
Вылецеў і чмель
Ранкам на здабычу.

Зблізку і здаля
Дзень зялёна-белы.
Цішыня чмяля
На лугах сустрэла.

Пчолцы, матылю,
Яблыньцы, сасонцы
Так, як і чмялю,
Шчодра свеціць сонца.

Хмаркам спакваля
Плыць па небасхіле.
Чорнага чмяля
Вельмі светлы вылет.

Дзесьці за лужком
Ручаёк булькоча,
Зверху над чмялём
Жаўранка званочак.

Праўда ж, на зямлі
Анішто не лішне!
З думай аб чмялі
Прасвятлела вішня.

## ГРАМАТЫКА ЛЕСУ

*М. Р. Каваленку.*

Шумлівы лес —
Падручнік роднай мовы.
Тут дрэвы,
Як назоўнікі,
Стаяць,
А птушкі утвараюць дзеясловы —
Пяюць і свішчуць,
Звоняць і крычаць.

Прыметнікамі бор здалёк прыметны —
Зеленачубы,
Стройны,
Залаты.
Сустрэне гай займеннікам прыветным:
Нібы з сябрамі,
З намі ён на «ты».

Зязюля раніцой лічэбнік вучыць —
Плыве наўсцяж стараннае «ку-ку».
Цвіце багун.
Цвіце чабор гаючы.
Вісяць,
Што коскі,
Шышкі пры суку.

Грыбы, нібы часціцы і прыслоўі,
Хаваюцца
Сярод імхоў і траў.
У верасным,
Сунічным палясоўі
Я ласкавыя словы напаткаў.

Звіні ж вякамі,
Мова,
Па-над краем —
У жніўні дзень,
На лузе,
Пры сасне!
Жыццё не адмаўляе,
А сцвярджае
Адмоўная часціца мовы — «не».

Не знішчым іх,
Не спляжым,
Не загубім —

Сваіх азёр, лугоў, сваіх лясоў.
І родны край і мову не разлюбім —
У кожным сэрцы гэты дзеяслоў!

* * *

Вось сонца ўстае пакрысе,
І лугу крыштальная ваза
Зайграла ў світальнай расе
Рубінам,
Сапфірам,
Алмазам.

Не б'ецца халодны крышталь:
Дзень вазу нясе асцярожна.
Прыціхла зялёная даль
Задумна,
Турботна,
Трывожна.

Высвечваюць кожную грань
Расінак зіхоткія скалкі.
І ўсюды цвітуць, дзе ні глянь,
Мядункі,
Званочкі,
Фіялкі.

Дзень новы пагоду нясе,
І лугу лятучая ваза
Іскрыцца ў світальнай расе
Рубінам,
Сапфірам,
Алмазам.

## МАЛІНАВАЕ ЛЕТА

На вятрах зашэрхлі першацветы,
І рабіне згоркнуць на вятрах.
У лясах малінавае лета,
Навальнічны прыпар у лясах.

Цішыня кладзецца на лясіны,
Медуніцай пахне цішыня.
Спёка дня выспельвае каліны,
І збірае хмаркі спёка дня.

Загрыміць пад ноч ці на дасвецці —
Молада і гулка загрыміць.
Зашуміць бяроза гнуткім веццем,
Над магілай брацкай зашуміць.

Ці ж было ў нас — глёўкі хлеб з бядою?
Крыўдна і балюча — ці ж было?
Адцвіло слязой і лебядою,
Гарчаком былое адцвіло.

Трэба спець каліне і ранету,
І ўсяму жывому трэба спець.
Не згарчэць малінаваму лету,
Ад рабіны горкай не згарчэць.

* * *

Над мядовай беласнежнай грэчкай
Мірнае суіснаванне пчол:
Дзікай — з росных лугавін прырэчных,
І пчалы — з наўкольных ціхіх сёл.

3 Зак. 3167

Дзве сястры шчыруюць раннем
звонкім.
Дзве пчалы не рвуць сваяцтва ніць.
П'юць нектар,
ляцяць наперагонкі —
Аж паветра тоненька звініць.

Поле, перапоўненае згодай,
Зіхаціць у кропельках расы.
І наўсцяж, як соты, пахнуць мёдам
Лугавіны,
пасекі,
лясы.

## КАСА

Каса лагчынку мурагу
Касіць, нагрэўшыся, не стала.
На лес, у сінюю смугу
Крычала чаіца, крычала.

Касец ідзе немалады —
Не той размах, не тая сіла.
Ад ранку кропельку вады
Прасіла кнігаўка, прасіла.

Касец дамоў касу нясе,
Бо высахла раса з лагчыны,
І адазваліся ў касе
Птушыны крык і боль птушыны.

* * *

Ціхая песня ў гаях і дубровах
Чутна з прадвесня.
І салавейкава і жаўрукова
Ціхая песня.

Сонца з-за бору напоўніць даліны
Пахам чабору.
Прагнуць палеткі, сады, ручаіны
Сонца з-за бору.

Яснае неба з той песняй лагоднай,
З працай і хлебам.
Сёння над краем, над нівою роднай
Яснае неба.

Жыць чалавеку ў нагодзе вясёлай,
З праўдаю веку.
Жыць бусляняці, жыць яблыньцы
кволай,
Жыць чалавеку.

Ціхая песня ў бацькоўскай старонцы
Чутна з прадвесня.
З хлебам і шчасцем, з мірам і сонцам
Ціхая песня.

* * *

Да верху грыбоў у кашы.
Паляны ў дымках верасовых.
Абудзяцца ў мудрай цішы
На песню балючыя словы,—

На радасць уцех і надзей,
На самую светлую ўдачу,
На ўсё, з чым жыву між людзей,
На ўсё, з чым бядую ці плачу,—

Абудзяцца словы таму,
Што спее ў душы навальніца,
Што ведае сэрца,
                    чаму
Гарэняць яны, як жывіца.

* * *

Лівень быў, але траве не золка.
Сонца, кветкі і цяплынь наўкруг!
І блішчыць вясёлая вясёлка,
Перакінутая цераз луг.

Колькі фарбаў на сырой пакошы!
Сонца, кветкі і — далёкі гром.
Луг падобны на вялікі кошык
З дужкаю вясёлкі за сялом.

## ВАСІЛЁК

Тут поўз ляднік суцэльнай глыбай.
На поле чорнае зірні:
Ляжаць за роднаю сялібай
З гор Скандынаўскіх камяні.

Былінка ў часе і прасторы —
Звычайны сіні васілёк,
Ды ў ім жыве дух непакоры:
Дождж не сагнуў і град не ссёк.

І трэба моцнае карэнне,
І трэба дужасць у касці,
І трэба воля і цярпенне,
Каб з-пад камення прарасці.

Чужы ў палях севазваротаў,
Свой між ваўчкоў і лебяды.
Ці ж лёгка кволаю пяшчотай
Граніт крышыць, тапіць ільды?

Тут, мусіць, колас не прыжыўся б,
Але даўно (прайшлі вякі)
На полі васілёк з'явіўся,
І — адступілі леднікі.

* * *

Адцвіло, мінула, адбрадзіла,
Чырванець рабіны пачалі.
Ёсць жа, ёсць нязведаная сіла,
Што ў паклоне хіліць да зямлі.

Я стаю — маўклівы і спакойны,
Зычу нівам і лугам дажджу,
Думаю пра подзвігі і войны,
Пра лясы, дзе з клопатам хаджу.

Ёсць сябры ў мяне, ёсць пабрацімы —
Я стаю ў паклоне не адзін
Перад светлым воблікам Радзімы,
Перад свежай чырванню рабін.

* * *

Вунь зноў зіхатліваю знічкай
Лёс чыйсьці над клёнам згарэў.
Калі ж гэта стала прывычкай —
Хадзіць задуменна між дрэў?

Магчыма, тады,
                калі з грому
Не стала ў суседа хлява.
Магчыма, тады,
                калі з дому
Уранку не выйшла ўдава.

Магчыма, тады,
                калі спёка
Аўсы спапяліла датла.
Магчыма, тады,
                калі токам
Чужая бяда апякла.

У вёснах турботных і зімах
Для роздуму хопіць прычын:
Не ведала б жалю Радзіма —
Не ведаў бы болю і сын.

За клён,
        што прарос у акопе,
За вецер,
        што свежа падзьмуў,

За слёзы,
                    пралітыя ў попел,
Адказнасць сваю я адчуў.

Зямлі нашай бедамі поўны,
Хаджу задуменна між дрэў
З жаданнем пякучым і кроўным —
Каб свет, дзе жыву, падабрэў!

## ВЫШЫНЯ

Ёсць вышыня,
                    што свеціць нашым дням,—
Яе святло праменіцца над краем.
Ёсць вышыня,
                    адкрытая вачам,—
Яна да шчасця шлях нам азарае.

Яе мы ўратавалі ад агню
І, як тады,
                    у грозным сорак першым,
Сваю аберагаем вышыню
І плугам,
                    і вінтоўкаю,
                                        і вершам.

Ёсць вышыня
                    і — сцяг на вышыні,
Ёсць барацьба
                    і — барацьбы ёсць мэта.
Якія ж будуць сонечныя дні,
Калі ад хмар ачысціцца планета!

## НАВІНА

Шчабятала ластаўка ў акне.
Кажуць: быць жаданай навіне.
Можа, дождж пакропіць пыльны
шлях?
Можа, спее жыта на палях?
Можа, ў пушчы стала больш грыбоў?
Можа, ліст мне прыйдзе ад сяброў?
Можа, болей стане дабрыні,
Болей шчырасці і цішыні?
Можа, бомбы вадароднай жах
Мучыць свет не будзе па начах?
Дык з якой жа, птушка, навіной
Прылятала сёння раніцой?
Бачу неба чыстае, як шкло.
Бачу ў небе белае крыло.
Ластаўку там бачу не адну —
Абяцаюць свету навіну...

## ПРЫМАЎКІ ПРА КАНЯ

Магчыма, што прысню
Дарогу без пакут.
Вялікаму каню
Такі ж насіць хамут.

На санцапёку дня
І духата, і млосць.
Для гордага каня
Спрадвеку цуглі ёсць.

Кладзецца пыл на скронь,
Стаяць лясы ў смузе.
Бяжыць рахманы конь
І — цугляў не грызе.

Падлічым ля агню,
Хто болей сёння вёз?
Вялікаму каню
Цягнуць вялікі воз.

Дарога. Цішыня.
Хусцінка — з-за вярбы.
Ля дужага каня
Сілач і конь слабы.

* * *

Хопіць гліны, хопіць чарназёму,
Хопіць месца паміж зор Сусвету,
Каб зляпіць па вобразу зямному
Новую зялёную планету.

Будзе там усё, як і звычайна:
Травы, росы, сосны пад блакітам.
Будуць жаць там збажыну камбайны,
Будзе гора там навек забыта.

Там на кветкі ў мроіве ліловым
Цёплым днём спікіруюць стракозы.
Там не будуць згорбленыя ўдовы
Даўні жаль выплакваць, як бярозы.

Думаю. Пакутую. Сумую.
І назад вяртаюся з Сусвету,
Каб сваю — рэальную, жывую —
Зберагаць ад гібелі планету.

* * *

На траве, на спелай гронцы
Росны вечнасці налёт.
Не спыніць кружэнне сонца
І вады кругазварот.

Вечна ўсё: зямлі вярчэнне,
Лісця шум і тлум дарог.
Вечнае гадоў кружэнне
На асі людскіх трывог.

Кружым полем, кружым лугам,
Кружым вечна па зямлі.
Застаецца ў цэнтры круга
Дом, што дзецям зберaглі.

## ЗОРКА

Калі на сэрцы стане горка,
Калі не спіцца давідна,
Блішчыць, блішчыць у шыбе
зорка —
Палонніца майго акна.

Сусветнай памяці адбітак
Цячэ бяссонніцай па шкле.
Ах, колькі іх было забіта —
Людзей, што згінулі ў імгле!

З дажджом, з бядой не пройдзе міма
Іх воблік — родны і жывы.
Блішчыць, блішчыць непрымірыма
Начная зорка з сінявы.

Свяціла воіну ў паходзе,
Свяціла мужнай удаве,
І тым, хто з подласцю не ў згодзе,
І тым, хто ў горычы жыве.

Блішчыць, блішчыць у шыбе зорка —
Палонніца майго акна,
І ўжо не так на сэрцы горка,
Калі ў акне блішчыць яна.

* * *

Пакуль ідзе смяротны бой
Паміж арлом і кобрай,
Штодзённа б'ецца клопат мой
Аб мыс надзеі добрай.

Пакуль на сонца ёсць ліміт,
З людзьмі хачу быць злітным:
Няхай малюецца блакіт
Такі, як ёсць,— блакітны!

Пакуль арол святла ляціць
І лес грыбамі пахне,
Перагарыць зло, быццам ніць,
Касцёр хлусні ачахне.

Яны ж ужо не ўпершыню,
Усе, хто сее змовы,
Свой тупяць меч аб дабрыню —
Мой шчыт самаахновы.

* * *

Ёсць справа, ёсць клопат жыццёвы.
Ёсць сталасці рупнай пара.
Крыніцы.
Палеткі.
Дубровы.
І — вечная прага дабра.

Ёсць смутак, ёсць радасць праз слёзы.
Ёсць дні, калі слепіць імгла.
Пралескі.
Зарніцы.
Бярозы.
І — вечная прага святла.

Ёсць поле, ёсць вэрхал грачыны.
Ёсць плуг, і ёсць слова «жыві».
Сяброўка.
Матуля.
Айчына.
І — вечная прага любві.

## МАЦІ

Табой пасланыя палотны
Бялелі ў росах пры вярбе.
Даўно ўжо горка і маркотна
Палям і лесу без цябе.

Увесну птушкі прылятаюць,
Увосень мкнуць за далягляд.
Цябе ж у хату не вяртаюць
Ні ліставей, ні снегапад.

Ні з грому першага, ні з ліўня
Цябе не выхапіць мой зрок.
Не прыйдзеш ты забраць у жніўня
Маладзіка свайго сярпок.

Хоць сіратліва рыпне брамка
У позні час ці раніцой,
Акна запыленага рамка
Не адлюструе вобраз твой.

Хоць не адбеляцца палотны
Маёй самоты дабяла,
Мне так тут цёпла і пяшчотна,
Дзе ты хадзіла і жыла!

* * *

Жаўранак на покліч птушаняці
Крыльцамі трапеча над гняздом.
І зямля пяшчотная, як маці,
Лучыцца праменістым святлом.

Бачу вёску ў мройным аддаленні.
Бачу стрэхі, бачу вокны хат.
І яшчэ выразна, да зняменння
Чую кліч травы і птушанят.

Ные ў сэрцы даўняя трывога.
Палавее жыта на палях.
Не, не стрэну маці ля парога.
Не, не выйдзе, мілая, на шлях.

У траве прыціхлі птушаняты:
Ім хапіла ласкі і цяпла.
Свецяцца прыветлівыя хаты
Залатымі водбліскамі шкла.

Дзве вярсты — сцяжынкай палявою.
Дзве вярсты — і хутка родны дом.
Дзве вярсты — з трывогаю, з журбою,
З жаўранкам над сцішаным гняздом.

* * *

Мама жыта сваё не дажала...
Суцяшала бабуля мяне:
— Перапёлкай яна, мабыць, стала,
Прыляціць і — палоску дажне.

Далеч сіняй смугой апавіта.
Перапёлкі мільгнула крыло.
Як жа сёння хачу я, каб жыта
І ў спякоту не кволым расло!

Я прыходжу сюды ціхім золкам,
І баліць маё сэрца, баліць,
Бо ў жытах блізка дзесь
перапёлка

Просіць піць...
Просіць піць...
Просіць піць...

* * *

Мы з ім жывём шмат зім і лет,
Пасля сваім сынам пакінем
Вялікіх продкаў запавет:
Дарогу саступі жанчыне!

Дарогу дай, калі звідна
Яна спяшаецца на поле,
Калі ідзе назад яна —
З бядой або душэўным болем.

Лягла сцяжынка паміж ніў,
Віхляе змейкай у лагчынах.
Сустрэчны моўчкі ўбок ступіў
Перад засмучанай жанчынай.

Я, можа, вырас,
не прапаў,
Што мама ад бяды ўсцярэгла,
Што нехта сцежку саступаў,
Калі яна дахаты бегла.

* * *

Жыта красавала.
Жыта прагла вырасці,
Дзе дастатку мала,
Там хапае шчырасці.

Ёсць адно маленне,
Створанае сёламі:
Беражы насенне,
Выхапі і з полымя.

І душа і цела
У маўклівым зверадзе:
Што ўжо адшумела?
Што яшчэ наперадзе?

Ціхая хаціна.
Бусел над хацінаю.
Плакала жанчына
Горкаю хвілінаю.

Каласоў цвіценне
Над ляснымі гонямі.
Зберагаў насенне
Свет яе далонямі.

* * *

Гасцінна, цёпла і прыветна
Гарыць агеньчык у акне.
Цяпер куточак запаветны
Ёсць недалёка і ў мяне.

Куру не ў крыўдзе папяросу,
І вечар шастае ў трысці.
Цяпер і мне ёсць, дзякуй лёсу,
Куды з бядой сваёй ісці.

На полі росным, на балоце
Мае не высахнуць сляды.
Цяпер жыву не ў адзіноце,
І ёсць каму падаць вады.

Агеньчык свеціць на дарогу,
І ўжо нічога не баліць.
Цяпер і мне ёсць, дзякуй богу,
Каго да сэрца прытуліць.

* * *

На дол, на дах і на карнізы
Лісты адвечны клён трасе.
Ляціць кахання голуб шызы —
Каму ён радасць прынясе?

Ляцеў бы ён здалёк ці зблізку б —
Гадоў прасветліцца імгла.
Калісьці я таксама выскуб
Пяро з ягонага крыла.

Ляціць да тых, каму патрэбен,
Хто дзесьці ў роспачы жыве.
Кругі чужога шчасця ў небе.
Кругі пяшчоты ў сіняве.

Прарваўся голуб яснавокі
З агню, з мяцеліцы, з імжы.
Люблю я поле і аблокі.
Люблю валошку на мяжы.

Мне аднаго пяра хапіла
Каханую і свет любіць.
Ляці, мой голуб шызакрылы,
І ён — дзівак — ляціць, ляціць.

* * *

Бор шуміць усё суцішней
І хвалюецца дарма:
Ні сцяжыначкі тут лішняй,
Ні сарок вакол няма.

Што там будзе ці не будзе,
Нас не выдадуць лясы.
У пчаліным перагудзе
Зружавелі верасы.

Пчолы тут? Навошта пчолы?
Хопіць мёду і без іх.
Хопіць ветразей вясёлых.
Хопіць шчасця на дваіх.

Залатое. Маладое.
Звонкі верас. Мяккі мох.
І — жаданне трапяткое.
І — вачэй перапалох.

* * *

Птушак світальных сола.
Неба святлее з краю.
Чулі б лясы і долы,
Як я цябе гукаю!

Дзятлу будзіць і слонцы
Звонкую ціш лясную.
Перад усходам сонца
Рукі твае цалую.

Радасць журбу праполе.
Светла ўсміхацца маю.
Бачылі б луг і поле,
Як я цябе шукаю!

Вось і заліў праменнем
Ранак імглу начную.
Перад зямным цвіценнем
Рукі твае цалую.

Вішань і яблынь замець.
Выйшла ты ў белым з гаю.
Ведалі б дзень і памяць,
Як я цябе кахаю! —

Лёсу майго былінку,
Краску жыцця малую,
Горкіх пакут слязінку —
Рукі твае цалую.

* * *

Пад рокат бубна адмыслова
Шумелі госці давідна.
Была з табою ў нас умова:
Не піць вясёлага віна.

Сустрэлі шэпатам бярозы.
Кружыла росная зямля.
Такім натхнёным і цвярозым
Быць не здаралася пасля.

Даўно раз'ехаліся госці,
Узяўшы бубен за плячо.
Прыжмуру вочы: з маладосці
Бяжыць журлівае дзяўчо.

Бяжыць — бярозы анямелі.
Бяжыць — не кружыць сенажаць.
Юнацтва нашага арэлі
Ужо нічым не разгайдаць.

Але за дымкай вечаровай
Касынка светлая відна,
Калі згадаецца умова:
Не піць вясёлага віна.

* * *

Снегу многа, снегу мала,
Снег на хвоі, снег на пні.
А Снягурка выбягала,
Быццам з казкі, — з цішыні.

Снег пушысты, лес пушысты
І пушысты твой каўнер,
Вечар звонкі, вечар чысты,
Як і чысты твой давер.

За бярозкай, за асінкай,
За ялінкаю густой
Светлавокая хітрынка
Пры наіўнасці святой.

Ах, лісіца, ах, сястрыца,
Уцякаеш ты дарма!
На калядныя грамніцы
Вельмі ж лютая зіма.

Снег растане. Будзе сумна.
І згадаецца яшчэ,
Як Снягурка легкадумна
Зноў у казку
уцячэ.

* * *

Вясеннія словы і гукі.
Пралескі табе падару.
І гладзяць даверліва рукі
Зялёнай бярозы кару.

Да белых далоняў прыпасці б:
— Адкуль вы? З якой сінявы?
Маўчыць неспазнанае шчасце.
Вярэдзіць той боль веснавы.

Была ж тут! Была на прадлецці!
Гадоў праляцела гурма.
Бяроз расхінаючы вецце,
Шукаю, гукаю — няма!

Не згінь, даўні смутак, не счэзні,—
З табой і вясна даражэй.
Як дзіўна свяціўся бярэзнік!
Каб толькі ж свяціўся даўжэй!

Я гай прывітаю ў паклоне.
Пралесак букецік збяру.
І гладзяць, і гладзяць далоні
Маўклівай бярозы кару.

* * *

Як толькі вясной прылятаюць
З далёкага выраю птушкі,
Няўмольна твой твар абсыпаюць
У колер асенні вяснушкі.

І сёння я крапінкі тыя
На шчоках зблажэлых убачыў,
Яны для мяне залатыя,
І дзіўна, што ты з-за іх плачаш.

На вішні ля нашай аптэкі
Шпак месца сабе не знаходзіць.
Ты ж ціха пытаеш пра лекі,
Што з твару вяснушкі выводзяць.

Ты ўдзячна аптэкарцы, пэўна.
Нясеш гэтых лекаў пакункі.
А я на аптэкарку гнеўны:
Прызначыць магла б... пацалункі!

## ПА МАЛІНЫ

Па маліны — на прычыну —
Ехаў горад у сяло.
І да нас адну дзяўчыну
Нейкім ветрам занясло.

Гаварыла вінавата:
— У малінніку мядзведзь...
І, каб ёй быць праважатым,
Я не спаў — уднее ледзь.

З ёй кружылі, з ёй хадзілі
Па імхах, па верасах,
А маліны аж брадзілі
У малінавых лясах.

І салоджанае рэха.
І салоджаная гаць.
Па маліны горад ехаў,
Ды ўсіх ягад не сабраць.

Не спускаў вачэй з дзяўчыны,
Каб ёй страшна не было...
І вось сам я па маліны
Еду з горада ў сяло.

* * *

А няўжо між кляноў
не са-
грэшана?
Запрашалі ж даўно ў
лес а-
рэшыны.
Беразняк павітаў
белым
веццейкам.
І навошта ж слата ў
спелым
лецейку?

Ноччу дожджык грашыў,
цвет у
ліп расіў.
Шчасце добрай душы ў
свету
выпрасіў.
Ноччу бор загудзеў:
ці ні
звера сніў?
Шум лясны прападзе ў
сінім
верасні.
Дзень цяпла не паслаў
хіба
грэшніку.
А сцяжынка вяла ў
глыб а-
рэшніку.

* * *

Вяршыні дрэў
У залатой каронцы.
Пастой са мной.
Прыслухайся. Замры.
Гадзіннік цікае,
І ярка сонца
Гарыць на стужцы
Ранішняй зары.

Цік-так! Цік-так!
Званчэюць птушак спевы.
Цік-так! Цік-так!

Гусцей чмялёў басы.
У полі ветру
Лёгкія павевы,
І фіззарадку
Робяць каласы.

Святкуе поле,
Бо над спелым жнівам
Няма ні навальніцы,
Ні імжы.
Кажу я ціха жнеяру:
— Шчаслівa!
Кажу табе я:
— Мірам даражы!

Цік-так! Цік-так!
Цячы хвілінам вечна.
Цік-так! Цік-так!
Плыве вячысты звон.
Не так і людна тут,
Як чалавечна.
І ўсё — як сон!
І ўсё, і ўсё — не сон!

Пастой са мной,
Сяброўка дарагая!
Глядзі: трывог
Як быццам не было.
І свежай хваляй
Шчасце набягае
Адтуль, дзе сонцам
Ніву заліло.

* * *

Завірухі гулі —
Дрэвы ў шапках калматых.
Крыўдна людзям, калі
Стынуць сэрцы і хаты.

На пачатак цяпла,
На вытокі пяшчоты
Не зіма намяла
Ледзяныя сумёты.

Зоркі, зоркі дрыжаць.
Месяц — жоўтаю люстрай.
Чую: крокі рыпяць.
Выйду, выйду насустрач.

На мароз, у зіму,
На сцяжынку лясную.
І — мацней абдыму.
І — радней пацалую.

Снег калючы, густы
У цішы азалелай.
Усміхнулася ты,
І — вакол пацяплела.

Тут завеі гулі —
Дрэвы ў шапках калматых.
Дзесьці ёсць на зямлі
І халодныя хаты.

Не зіма намяла
Ледзяныя сумёты
На вытокі цяпла,
Дабрыні і пяшчоты.

* * *

Грон рабінавых маністы
Намалюе далягляд.
Залацісты,
Залацісты
Лістапад і твой пагляд.

Сонца выйдзе з-за хмурынкі,
Лісце высвеціць ярчэй —
Залацінкі,
Залацінкі
Між сярэбраных начэй.

Людзям самае святое
Зберагае мудры час.
Залатое,
Залатое
Ёсць яшчэ вяселле ў нас.

І нічога, што старэюць
Дрэвы, людзі, гарады, —
Залацеюць,
Залацеюць
Нашы сталыя гады.

* * *

Над калючым коласам
Лётаць матылю.
Вінаватым голасам
Я сказаў: «Люблю!»

Не бяда адчайная,
Не журба зусім —
Радасць незвычайная
Ты ў жыцці маім.

Блізка над азёрамі
Кані плач замоўк.
Вечар выткаў зорамі
Неба сіні шоўк.

Рэчку вербы белыя
Перабеглі ўброд.
Добраю, нясмелаю
Трызню сотні год.

Сніцца луг з крыніцамі.
Сніцца шэлест крыл.
Бліскае зарніцамі
Зорны небасхіл.

Збудзіць ноч грымотная
Звонам ручая.
Родная, пяшчотная,
Мілая мая!

Ранкам тым жа голасам
Зноў скажу: «Люблю!»
Зноў над росным коласам
Лётаць матылю.

* * *

Каліны зарыва ачахне —
Зальюць дажджы яе агонь.
Але жнівом яшчэ не пахне
Твая пяшчотная далонь.

І цёпла мне, і снег зарана
Сцяжын маіх не замяце.
Турботна, цяжка і складана
Жыць на святле і ў дабраце.

Мінуцца шчасныя хвіліны,
І ўсё паўторыцца наноў —
Дажджы і зарыва каліны,
І ранні покліч жураўоў.

Не быць іх песням недапетым.
Не чуць нам стогнаў і пагонь.
Хай доўга, доўга пахне летам
Твая пяшчотная далонь.

І міма— боль, і смутак — міма.
Паміж балот, сярод лясін
Няхай паўторыцца Радзіма
З дажджом над зарывам калін.

* * *

Калі апошнія масты
Гараць у марыве асеннім,
На беразе суседнім ты
Стаіш у смутку і здзіўленні.

Твайго я смутку не хачу —
Хай воблачкам сплывае ўверсе.
Каханая! Майму плячу,
Маёй руцэ душой даверся.

Пральецца дождж на горкі дым,
На луг, на жоўтыя дубровы,
І ты на беразе сваім
Не застанешся без аховы.

Туды, дзе ты стаіш адна,
Туды, дзе роспач і гаркота,
Вядзе мяне мая віна,
Вядзе мяне мая пяшчота.

На шэры луг, на лес пусты
Твой смутак пойдзе незваротна.
І тушыць дымныя масты
Асенні дождж — густы і слотны.

## МЯСЦОВЫЯ ПАЭТЫ

Думаюць падчас пра лёс планеты,
А часцей — пра поле за сялом,
Дзе яны, мясцовыя паэты,
Пішуць вершы плугам і пяром.

Бачаць радасць, смутак заўважаюць,
Чуюць, як трашчаць мацерыкі,
І на чысты ліст пасля сцякаюць
Іх каструбаватыя радкі.

Боль чужы адчуюць праз імгненне,
Смех дзіцячы ўціснуць у санет.
Паляць сэрцы на кастры натхнення
Без надзей на ўвагу літгазет.

Іх прызнала поле ў самацветах,
Іх прызналі бор і сухадол.
Добры дзень, мясцовыя паэты,—
Геніі бацькоўскіх ніў і сёл!

## НІЗКІ І ВЫСОКІ ЦІСК

Там — спякота. Тут — мароз сіберны.
Дзесьці зноў маланак бліск.
Робіць нам пагоду атмасферны
Нізкі і высокі ціск.

Ціск высокі — сонейка ў блакіце.
Нізкі ціск — дажджы ідуць.
Ластаўкі, пад воблакі ляціце —
Хмары міма праплывуць.

Не стракочуць на лужку мурожным
Конікі перад дажджом,
А людзей хвалюе — колькі ж можна?—
Іншы ціск і іншы гром.

Кожны раз на чорным папяліску
Уяўляецца ў вачах
Страшны міг павышанага ціску
На японскіх астравах.

Хай жа будзе сонейка ў блакіце!
   Хай жа будзе добры гром!
Перапёлка хоча жыць у жыце.
   Чайка плача над лужком.

То цяплынь, то хмаркі праплываюць,
   Ззяе ў сонцы абеліск.
І, як птушкі, людзі адчуваюць
   Нізкі і высокі ціск.

* * *

Селі пчолы на першыя кветкі.
У цяпле прараслі жалуды.
Напаіў шчодры лівень палеткі,
І няма адчування бяды.

Засвісталі шпакі каля хаты.
Пад аблокі ляцяць галубы.
Уцалелі ў буслоў птушаняты,
І няма адчування журбы.

Не знікаюць больш хлопцы без вестак.
У барах гасне рэха вайны.
Сцерла з твару слязінкі нявеста,
І няма адчування віны.

Боль пайшоў на лясы,
                                        на балоты,
І, апроч скрушных дум для пяра,
Ёсць яшчэ адчуванне пяшчоты
Пры збліжэнні святла і дабра.

* * *

Чаго ж ён, вунь той чалавек,
ля мяжы
Упаў на калені і енчыць?
Відаць, ён не вельмі і правільна жыў,
Калі перад памяццю кленчыць.

Аб чым ён, аб чым ён нябёсы маліў?
Што ў поля прасіў так ласкава?
Відаць, каб ступіць новы крок па зямлі,
Не меў ён свяшчэннага права.

Упаў, пакаянны, між выспелых траў.
Падняўся і — выпрастаў плечы.
Відаць, ён таму на каленях стаяў,
Каб стаць зноў у рост чалавечы.

## АЛІМПІЙСКАЯ ДАРОГА

Між палёў, сярод разлогаў,
Праз лясы, праз сіняву
Алімпійская дарога
Легла з Брэста на Маскву.

Навяла Алімпіяда
Узаемнасці масты,
І нырае аўтастрада
То ў туман, то ў дождж густы.

Працінаюць даль імкліва
Дзве з бетону паласы.
Па баках гамоняць нівы
І бушуюць верасы.

Пас на мір і разуменне,
На давер і дружбу пас
Для разрадкі і збліжэння
Працягнуў народам час.

Турыстычная Еўропа,
Едзь і помні заадно;
Там, дзе зеўралі акопы,
Легла дружбы палатно.

Еўрапейскія турысты,
Вас вітае трубаў медзь —
Толькі едзь з душою чыстай,
Толькі ж з добрым сэрцам едзь.

Небасхіл прашылі сіні
Дзве з бетону паласы.
Далячыні, далячыні —
Верасы і каласы.

Будзе людзям сонца многа,
Бо з Масквы ў свет пралягла
Алімпійская дарога
Міру, шчасця і святла.

## ЧЫЛІЙСКАЯ ПЕСНЯ

Палосачка Чылі, як шабля —
Шчарбатым (на карце) лязом.
Пакідалі косы і граблі,
Пакінулі людзі свой дом.

З радзімаю іх разлучылі,
І песня звініць на вятрах:
«Як будзеш ты ў Чылі,
Як будзеш ты ў Чылі,
Знайдзі маю вёску ў гарах».

Імя Сальвадора Альендэ
З жудою, з вадой не сплыве.
Жыве яно ў казках, легендах,
У песнях чылійскіх жыве.

З радзімаю іх разлучылі,
Прыпеў на салёных вятрах:
«Як будзеш ты ў Чылі,
Як будзеш ты ў Чылі,
Знайдзі маю вёску ў гарах».

І плачуць, і плачуць гітары,
Па струнах сцякае дакор.
Чыліец, мой сумны таварыш,
Лавіны пакоцяцца з гор.

З радзімай цябе разлучылі,
Ды гнеў у вачах не ачах.
Ты будзеш у Чылі,
Ты будзеш у Чылі,
Ты знойдзеш свой дом у гарах.

## ЗДЫМАК

Сяло з сенажаці ўцякло,
    А хлопцы — з арэхаў.
У наша Малое Сяло
    Фатограф прыехаў.

Ля школы над засенню дрэў
Натоўп не радзее.
Фатограф за здымак бярэ
Па трыццаць капеек.

Жартуе тут Лойка Антон:
— З мяне вазьмі меней.
Нагу, бач, адцапаў мне фронт
Да самых кішэняў.

Ля цёткі Папіхі стаяць
Жанкі вельмі ж ціха.
— Папка́ мне на картку не зняць,—
І — плача Папіха.

А потым фатограф дзятву
Пастроіў за школай.
— Трымайце вышэй галаву,
Глядзіце вясёла!

На фоне замглёнай сцяны,
Ля пыльнай дарогі —
Картовыя фрэнчы, штаны
І — босыя ногі.

Прыгледзішся: смутак ці боль
У хлопцаў — з-пад веек...
Той здымак, відаць, варты больш,
Чым трыццаць капеек.

* * *

Усяк у Сусвеце бывае —
І слёзы, і радасць,
Аднак
Абранніцу сэрца кахае
Без лішняй трывогі юнак.

Прытуліць салдата матуля,
І сад зацвіце зноў,
Але
Гатовая к вылету куля
Жыве ў варанёным ствале.

То лівень шумлівы, то вецер,
Няма нам спакою,
Аднак
Пасеяны скрозь на планеце
Сцягоў палымнеючых мак.

Не хмары зацягваюць сонца —
Гудуць самалёты,
Але
Спрадвечным жыцця абаронцам
Ляжыць свежы хлеб на стале.

## ДА ПЫТАННЯ АБ ШЧАСЦІ

Цэлыя моры салёнай вады.
Столькі праліта і слёз на планеце.
Горам пацвердзяць былыя гады,
Многа ці мала ў нас шчасця
на свеце?

Карту дастань, каб не ўводзіцца
ў зман:
Мала зямлі, а вады колькі многа!
Сушу, што ёсць, намыў слёз акіян —
Сушу мізэрную шчасця людскога.

* * *

У жніўны дзень зямля спявае
І весялей душы маёй.
Сінее далеч палявая.
Аблокі снежныя над ёй.

Слабее спёка, свежы вецер,
Гуляюць дзеці каля хат,
І мне здалося, што на свеце
Няма ні бомбаў, ні гармат.

Гарачы дзень у спелым жыце
Звідна камбайнамі гудзе.
Не патрывожце, не зганіце
Буслоў у тлумнай чарадзе.

Трава пажухлая на доле.
Звініць крынічка з-пад вярбы.
Спявае бор, спявае поле,
І ў песні той няма жальбы.

Буслам скажу я: «Да спаткання!»
На ржышча прыйдзе востры плуг.
Трывогі, роздум, спадзяванні
Жыцця паўторыць новы круг.

* * *

На апошні зык тваёй трубы
Ці крумкач, ці сойка прыляціць.
Разумею сёння без журбы:
За жыццё патрэбна заплаціць.

Спёка дня даўно пайшла на спад,
І гарыць асіннік у імгле.
Я плачу за кожны лістапад
Новаю маршчынкай на чале.

Я — маршчынкай, дзед жа мой плаціў
Сівізны пяшчотным серабром
За лясы, што калісь пасадзіў,
За ялінку з сойчыным гняздом.

І пайшоў туды, дзе між лясін
І цяпер усё яшчэ ў глушы
Дагарае ў зарыве асін
Золата яго душы.

Разумею сёння без журбы:
За жыццё патрэбна заплаціць.
І на той — апошні — зык трубы
Не крумкач, а сойка прыляціць.

## КІРМАШ

> Жыццё пражыць — што паехаць на кірмаш.
>
> *Прымаўка*

З гаю трубіць мне алень,
Не зайсці і ў гэты гай.
Еду, еду кожны дзень,
Век наступны, сустракай!

Хай людзей лёс беражэ:
Доўга ж ехаць міма паш,
Хоць жыццё і не даўжэй,
Як паездка на кірмаш.

Ад старых, сівых бяроз.
З вёскі ціхай і святой.
Энтээр зламала воз,
Перасеў я на аўто.

Па дарожцы па крывой.
Па прасёлку.
Па шашы.
Па бетонцы гарадской.
І вось я на кірмашы.

Гандаль,
Гандаль тут ішоў!
Прапаноўвалі ларкі
Не кашулі да штаноў,
Не капусту,
Не гуркі.

Прадавалі сталасць тут.
І на вопыт
Попыт быў.
Нехта ж адхапіў пакут.
Нехта ж сівізны купіў.

Бачыў тут любы тавар.
Бачыў гора і бяду.
Сетачку маршчын на твар
Мне хтось кінуў на хаду.

Пастаяў каля мужчын
З прасвятлелай галавой.
Тую сетачку маршчын
Я напоўніў дабратой.

Будзе светлы далягляд.
Будзе вецер гнаць імжу.
Ды,
Сабраўшыся назад,
Дзякуй
Кірмашу кажу!

Ехаць,
Ехаць кожны дзень.
Электрычкай.
На таксі.
Будзе зноў трубіць алень.
Будуць бегчы ўслед ласі.

Ад бяроз і — да бяроз.
Ад сваіх і — да сваіх.
У залеву і ў мароз
Ехаць,
Ехаць кожны міг.

То дарожанькай крывой.
То з прасёлка —
На шашу.
З думкай сталай,
З дабратой
Выязджаю з кірмашу!

* * *

Рабіна з холаду ці з жалю
Кусае губы да крыві.
Сярпы палосачку не зжалі
Маёй пяшчоты і любві.

Руплівы дзень на ветры выстыў —
Туман малочны над вадой.
Прыйду сюды з душою чыстай,
Прыйду і з горам, і з бядой.

Пачую плач залётнай кані
І на бары аленя рог,
І мне лягчэй адразу стане,
І ў сэрцы зменшыцца трывог.

Яшчэ слабое ў познім леце
Дыханне восеньскай слаты.
Яшчэ стае на гэтым свеце
І цеплыні, і дабраты.

Глядзець мне вечна на Айчыну
З палоскі той, дзе ў цішыні
Паўз адзінокую рабіну
Бягуць, нібы алені, дні.

* * *

На кляновых лістах, на аеры
Нашы маці пяклі хлеб калісьці.
І тады тыдняў два ў сценах шэрых
Пах аер і кляновае лісце.

Нашы маці пяклі хлеб калісьці —
Першы хлеб пасля бед і галечы.
Пах аер і кляновае лісце —
Узыходзілі сонейкі ў печы.

І тады тыдняў два ў сценах шэрых
Кот ад паху хадзіў, быццам п'яны.
На кляновых лістах, на аеры
Нашы маці пяклі хлеб румяны.

Пах аер і кляновае лісце —
Пракліналі вайну ў сценах шэрых.
Нашы маці пяклі хлеб калісьці
На кляновых лістах, на аеры.

## АПАЛОНІК

Штодзень бабульчыны далоні
Яго трымалі —
дзіва з дзіў,
Бо гэты мудры апалонік
Мяне вучыў, мяне карміў.

Я вечны быў яго палоннік,
І не было яму цаны,
Калі кухарыў апалонік
У цяжкі час пасля вайны.

Пачнеш дурэць, зламаеш клёнік
Ці кінеш хлеб,
дык па ілбе
З іскрой урэжа апалонік,
Як і не снілася табе.

У цішыні пацёршы скроні,
Я сёння думаю не раз:
Мой добры, мудры апалонік,
Як не стае цябе падчас!

## ПЕЙЗАЖ З СЯНАЖНЫМІ ВЕЖАМІ

1

Паеду туды, дзе каліны
Спалілі бярозавы гай,
Дзе мёдам і ядам пчаліным
Нас лечыць пялёсткавы край.

Цяпельца любві не патухла
Да крэўнай сялібы сваёй.
Вандроўнае сэрца не глухла
З самоты і болю па ёй.

Паеду туды, дзе бярозкі
Бягуць, як славянкі, ў лугі,
Дзе бусел на вылеце з вёскі
Над помнікам робіць кругі.

Вярэдзіць з няўтольнаю сілай
І радасць, і смутак Сяла,
Дзе, мабыць, у сэрца ўкусіла
Бацькоўскага поля пчала.

2

Жыта ветрык пагойдвае свежы,
Дзе балота гнілое было.
Купаламі сянажныя вежы
Узвышаюць лясное Сяло.

І з вадою ў калонках, і з газам,
І з дастаткам жыве кожны дом.
Над сівою бярозай, над вязам
Белы бусел махае крылом.

Ты квітней, дарагая сяліба!
Ты ляці, мая песня, з грудзей!
Веру я ў гэты водбліск у шыбах.
Веру я ў гэтых добрых людзей.

З новай казкай Сяло, з новым бытам.
Перасох на абмежках палын.
І далёка, далёка над жытам
Серабрыста блішчаць купалы.

3

Крычу ваколіцы:
                    — Вітанне! —
Зялёнай прыстані Сяла.
Сустрэчы blізкай хваляванне
Жытам яна перадала.

Шапоча ніва каласамі,
Расказвае,
              як без мяне
Жыла ваколіца гадамі,
Каго гукала па вясне.

На бераг родны ў хвалях спелых
Плыву праз жыта і авёс.
І ціха ветрык пасвяжэлы
Напоўніў ветразі нябёс.

Там, дзе гарыць маяк рабіны,
Я кожны раз —
                    жаданы госць.
І добра ж як,
                 што край бусліны
З бацькоўскай прыстанню ў нас ёсць!

4

За смутак айчыннае хаты
Я вечна цяпер вінават:
Паехаў — не сеяў зярняты,
Вярнуўся — не вынесці страт.

З віны маёй гэтай пякучай
Расце, быццам дрэва, любоў
Да кожнай былінкі калючай,
Да светлых палёў і дуброў.

А гукі гармоніка тыя ж,
І тыя ж лугі, і сады.
Чаго ж, маё сэрца, ты ныеш
Па тым, што прайшло назаўжды?

І сёння за вёскай у жыце
Збавення стае для душы.
Гукніце, лясы, пазавіце
Мяне — маладога — з шашы!

5

У горад маладыя —
Як мухі на алей.
Ужо сям-там пустыя
Стаяць дамы ў Сяле.

Забытую прасеку
Заглушыць дробны хмыз.
У гонары спрадвеку
Узорны быў карніз.

Цяпло і дождж супольна
Аблашчылі траву,
І ручаю раздольна
Звінець у сіняву.

Кляны ля хат не плачуць,
Але і ім карціць
І поплаў перайначыць,
І грэблю абнавіць.

Крупу дзён год за годам
Дзярэ трывогі млын.
І ўжо не пахне мёдам
Наводшыбе палын.

6

Край ажынны, край сасновы
Край з дарожкай палявой,
Разам з коласам жытнёвым
Я навек, да скону твой.

Бачу: жоўты пэндзлік снопа
Мокне ў фарбах сінявы.
Залатыя ў полі копы —
Як у моры астравы.

Тут начую, тут жыву я.
Знаю радасць і бяду.
На дарожку палявую
Толькі друга прывяду.

Бачу: белыя фрэгаты
Узнялі світання сцяг.
Поле, сосны, даль і хаты —
Родны мой архіпелаг.

Ручаёк дарожкі льецца,
І вядзе ён да людзей,
І чамусьці сэрца б'ецца
Весялей і маладзей.

Я занудзіўся б душою,
Але ж ёсць ён, мілы мой,
Край пяшчоты і спакою,
Край з дарожкай палявой.

* * *

У садзе жыцця, у лясах
Пара залатая.
І светла, і светла ў вачах.
Душа не пустая.

Прымялі, стапталі траву
Ля новага зруба.
Табою, мой краю, жыву,
Табою, мой любы.

Вачам на вятрах і ў слату
Сваціцца праменна.
Адчую ў душы пустату,
Адчую імгненна.

Араць і скародзіць зямлю
Вясёла і згодна.
Цябе я, цябе я люблю,
Мой краю, мой родны.

Халоднаму сэрцу не ўчуць
Нічога, нічога —
Ні сосен, што ў буру гудуць,
Ні болю чужога.

Лісток заляцеў на жарству
Ля брацкай магілы.
Табою, мой краю, жыву,
Табою, мой мілы.

І, пэўна ж, і, пэўна ж, таму
Душа не пустая,
Што свеціць і лёсу майму
Пара залатая.

* * *

Гарыць у маўклівым балоце
Рабіна збавення майго.
Свінцовая куля на ўзлёце —
Заб'е ці скалечыць каго?

Яшчэ я вярнуўся б вясёлы,
Вярнуўся б яшчэ не стары,
Хоць круцяцца, грукаюць колы
Ужо не ў гару, а з гары.

Не гаснуць далёкія зоркі.
Сябе ад людзей не таю.
Рабіна агнём сваім горкім
Расплавіла кулю маю.

Гамоняць пад ветрам і гнуцца
Бярозкі ля стылай вады.
Мне хочацца часам вярнуцца
Дарогай праз лес і брады.

6 Зак. 3167

Зямлю палюбіўшы святую
І цёплы рабінавы цвет,
Я працай і словам ратую
Ад чорнай пагібелі свет.

Яшчэ я вярнуцца павінен
Дарогай праз лес і праз гаць —
Туды, дзе нялёгка рабіне
Свінец з маіх куль выплаўляць.

* * *

На поле лёг асенні роздум,
Смуга — на лес, лісток — на гаць.
Нам птушкі давяраюць гнёзды,
Калі ў субтропікі ляцяць.

Ляцяць над багнай непралазнай,
Ляцяць за шэры край нябёс.
І мы за іх жыццё адказны,
І нам шчыміць птушыны лёс.

Крычаць над ярам і над гаем.
Крычаць у скрусе і ў жальбе.
Калі мы гнёзды зберагаем,
То зберагаем і сябе.

Ляціце, мілыя, ляціце!
Пакуль давер ёсць на зямлі,
Жаўрук зазвоніць у блакіце,
Пратрубяць зноў нам жураўлі.

## ЛОСЬ

На ўсю пушчу, на ўсю
Трубны голас лася,
І ласіха ласю
Дзесь адгуква-ла-ся.

Між палян і дуброў
Быстры тупат лася —
Разгарэлася кроў,
Збаламуці-ла-ся.

На дарозе не стой,
Хто б ні быў,
у лася:
Лось спяшае да той,
Што адгуква-ла-ся.

А яна ж у кустах,
Счуўшы голас лася,
Лесу ўдыхвала пах
І трывожы-ла-ся.

Зноў будзіў пушчу ўсю
Спеўны голас лася,
І ласіха ласю
Зноў адгуква-ла-ся.

* * *

Першы снег сыпануў на світанні —
Светлы пух на платах, на траве,
Што сказаць вераб'ю ў спачуванне?
Пастаю, памаўчу —
хай жыве.

Весні гром пракаціўся нясмела —
Быць цяплу, быць святлу, дабраце.
Што сказаць гэтай яблыньцы белай?
Памаўчу і пайду —
хай цвіце.

Спорны дождж над пажоўклаю нівай—
Жыту горкую смагу запіць.
Што сказаць мне бярозцы шумлівай?
Падыду, абніму —
хай шуміць.

Ліставей на лугах, на балоце.
Завядання разгул не суняць.
Што сказаць жураўлям пры адлёце?
Пастаю, уздыхну —
хай ляцяць.

* * *

Дрыжаць ты ад крыўды не станеш,
Як ліст,
Старэе ў жыцці, на экране
Артыст.

Не вернеш ні дзень учарашні,
Ні ноч.
Глядзі на сябе ты бясстрашна
І — кроч.

Не скора заслоніць ялінкі
Сутонь.
Ляцяць сівізны павуцінкі
На скронь.

Цячэ па зямлі незваротны
Працэс.
І ўвосень не будзь ты маркотны,
Як лес.

Лепш пальцы складзі, бы падлетак,
І — свіст!
Якім жа ты будзеш праз лета,
Артыст?

* * *

Іней долу хіліць голле.
Хустка белая ў сасны.
Не сціхае ў наваколлі
Кліч жыцця і кліч вясны.

Шумам жыта трызніць ніва.
Спіць пад снегам сенажаць.
Будзем жыць свой век шчасліва,
Будзем сеяць, будзем жаць.

У дрымоце светла-сіняй
На лясы, на долы лёг
Белы іней, белы іней
Дум вячыстых і трывог.

* * *

Марознага ветру павевы
Трывожаць закутак лясны.
Абсыпаны інеем дрэвы:
Бярозы, асіны, кляны.

У снезе ствалы сухастою,
Ні пня, ні гнілога камля,
Як быццам з журбою, з бядою
Не знаецца болей зямля.

Спадзе снегавая заслона,
І ўбачацца рэчы ясней:
Зялёнае будзе зялёным,
А чорнае стане чарней.

Асінам і кожнай сасонцы
Трывог, як і людзям, стае.
Зямля, мы твае абаронцы,
Сыны і героі твае.

Марозны, бадзёры, вясёлы
Дзень ціха брыдзе між лясін —
Іскрацца сумётамі долы,
Цярушыцца іней з галін.

* * *

Жыццё свой воблік паўтарае
У завірусе новых дзён.
Запоўнен лес птушыным граем,
Абмыты ліўнем сіні лён.

Адтуль — з вякоў — усе турботы,
І працы пот, і хлеба пах.
Адтуль — з вякоў — мая пяшчота
І дабрыні святло ў вачах.

Гулі вятры, грымелі бітвы.
Зямлі вярталі прыгажосць.
Адтуль — з вякоў — дайшла малітва:
Жыві і помні, хто ты ёсць.

Лёс у народа быў суровы.
Ары і сей у добры час.
Любові і давер'я словы
Адтуль — з вякоў — прыйшлі да нас.

Звініць птушыная дзяржава.
Сінее лён, сціхае гром.
Настане дзень, і нашы справы
З любоўю ўспомніць кожны дом.

* * *

Сваёй чарадою,
Сваёй пуцявінай, —
З трывогай людскою,
З жальбой жураўлінай.

Праз пошум дубровы,
Праз леты і зімы
Ляцяць мае словы
Пад сонцам Радзімы,—

Вясенняй запеўкай,
З усмешкай зычлівай
Ляцяць над засеўкам,
Над спелаю півай,

Над горкай рабінай,
Над нейчай бядою —
Сваёй пуцявінай,
Сваёй чарадою.

* * *

Сярод узгоркаў, па раўнінах
Майго жыцця цячэ рачулка.
Бывала горычна ў цяснінах,
Бывала на парогах мулка.

Не раз сустрэў крутыя глыбы,
З якіх ляцеў я вадаспадам.
Пражытыя мной дні, як рыбы,
Плывуць насустрач плыні ладам.

Пакуль цясніны ёсць і горы,
Пакуль ёсць стэпы і пустыні,
Рачулцы марыцца аб моры,
І мкне яна да хваляў сініх.

* * *

Багата хата не вуглямі —
Багата шчырасцю яна.
Над бураломам, над імхамі
Шуміць падростная сасна.

Гадоў і хмар над галавою
За лес нямала праплыло.
Не паяднаць агонь з вадою.
Не прымірыць жыццё і тло.

Травы і кветак абнаўленне
Вітае кнігаўка наўсхліп.
Вясна прадоўжыцца цвіценнем
Зялёных ніў і белых ліп.

Яны ідуць, ідуць за намі —
Нашчадкі з далечы пустой.
Багата хата не вугламі —
Багата шчырасцю людской.

* * *

І смугой, і лістамі
Зацярушаны сад.
У кустах, над лясамі
Адшумеў лістапад.

І з нахмураных высяў
Пацягнула імжой.
І як тут ні дзівіся —
Цэлы год за спіной.

Будуць помніцца крокі
Па світальнай расе.
Аблажны і глыбокі
Снег лугі занясе.

Думаў свет і пра жніва
І пра бульбу ў кашы,
Трэба выспацца нівам.
Трэба выстыць душы.

І таму над лясамі,
Над пяшчотай прысад
Залацістымі днямі
Адшумеў лістапад.

ЗМЕСТ

**Гардзей В.**

Г 20 Засевак Радзімы: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 94 с.

35 к.

У зборнік уключаны вершы аб Радзіме, аб сыноўняй адданасці і вернасці свайму краю. Многія старонкі кнігі прысвечаны прыгажосці роднай прыроды, жанчыне-працаўніцы, светлай памяці тых, хто не вярнуўся з вайны.

Г $\frac{4702120200-061}{М302(05)-83}$ 46—83

ББК 84Бел7

Бел2

*Виктор Константинович Гордей*

ЗАСЕЯННОЕ ПОЛЕ РОДИНЫ

**Стихи**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк
Мастак Ю. М. Порын
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 1809
Здадзена ў набор 25.11.82. Падп. да друку 17.03.83. АТ 21054. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,51. Ум. фарб.-адб. 3,58. Ул.-выд. арк. 3,52. Тыраж 5000 экз. Зак. 3167. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.